

*Жыве Беларусь!*

# ПАГОНЯ

*Рэгіянальны агляд: Беласток — Горадня — Вільня*

*№ 4 (18)* *26 лютага — 4 сакавіка 1993 г.* *Кошт 3 рублі*

## «КІТАБУ» АДМОВІЛІ

Мы ўжо пісалі, што актывісты гарадзенскага грамадзка-культурнага аб'яднаньня «Кітаб» па ўзгадненьню з мясцовымі ўладамі на сродкі арабскіх краін і ахвяраваньні вернікаў-мусульман паспрабавалі стварыць ў межах Горадні гуманітарны дзіцячы лагер, мэтай якога было б аздараўленьне дзяцей-мусульман, ахвяр сербска-басьнійскага канфлікту.

Каб паскорыць утварэньне лагеру, кіраўніцтва аб'яднаньня «Кітаб» даслала ліст на імя старшыні ВС Рэспублікі Беларусь. Днямі на адрас мусульманскага рэлігійнага аб'яднаньня прыйшоў адказ ад старшыні камісіі па нацыянальнай палітыцы і пытаньнях СНД М.Сьлямнёва за № 22-5/310/505, у якім паведамляецца: «В настоящее время, искренне сочувствуя людям, попавшим в беду, Р. Беларусь не имеет возможности для принятия беженцев Боснии. Это связано с кризисным явлением в ее экономике, а также с тем, что, как вам известно, из зоны радиоактивного заражения, вызванного катастрофой на Чернобыльской АЭС, необходимо переселить около 2-х миллионов человек. Это требует колоссальных затрат. Кроме того, в связи с распадом СССР и конфликтными ситуациями в ряде республик бывшего СССР, в Беларуси каждый день приезжают беженцы и переселенцы, которые также нуждаются в срочной помощи».

Такі вось нечаканы адказ тым, хто жадае дапамагчы людзям, якія трапілі ў бяду. Дзіўна, бо гэты лагер арганізатары зьбіраліся фундаваць не за кошт дзяржавы, а за лік дапамогі урадаў мусульманскіх краін. Шкада, бо на гэтым гарадзенскія мусульмане не спыніліся і накіравалі сваю дэлегацыю ў Маскву з прапановай расейскаму ўраду стварыць такі ж лагер на тэрыторыі Расеі.

**Г. АСТРОЎСКІ.**

## НОВАЕ ПРАЎЛЕНЬНЕ КАФ «БАЦЬКАЎШЧЫНА»

У ЗАЛЕ Гарадзенскага дому культуры адбылося паседжаньне агульнага сходу сяброў КАФ «Бацькаўшчына». На сходзе прысутнічала 48 чалавек. Прысутныя заслухалі справаздачны даклад старшыні рэвізійнай камісіі аб фінансава-гаспадарчай дзейнасьці фонду за 1992 год.

На падставе дакладу сябры сходу прызналі фінансава-гаспадарчую дзейнасьць КАФ «Бацькаўшчына» станоўчай. Каб забясьпечыць плённую працу ўсіх структур фонду, па прапанове старшыні спадара Маркевіча былі абраны шляхам адкрытага галасаваньня чатыры новыя сябры праўленьня. Імі сталі М. Патрэба, А. Жукоўскі, К. Жынь і А. Майсяёнак.

**Л. ВАСІЛЕЎСКІ.**

## СЮРПРЫЗ З ЧЭХІІ

ДОЎГА,— з чэрвеня мінулага года падарожнічалі прызы міжнароднага конкурсу дзіцячага малюнка, перш чым трапілі на адрасе,— у Гарадзенскую мастацкую школу. Відаць, адпраўлялі іх арганізатары па прывычных каналах,— спачатку ў Маскву, а потым ужо ў Беларусь. Вось і затрымалася дзесьці пасылка...

*А што ж у той пасылцы?* Ганаровыя дыпломы лаўрэатаў буйнога міжнароднага конкурсу, які традыцыйна праводзіўся кожны год у Чэхіі, у горадзе Лідзіцэ. У мінулым годзе ў гэтым конкурсе ўдзельнічалі выхаванцы Гарадзенскай гарадзкой дзіцячай мастацкай школы Вольга Рапекта, Сьвятлана Іаскевіч, Дзіма Ціханоўскі. Яны адправілі ў Лідзіцэ свае малюнкі і сталі лаўрэатамі.

Якраз цяпер у фае кінатэатра «Гродна» адкрыта выстава работ навучэнцаў гарадзкой мастацкай школы. Зазірніце туды, і вы пераканаецеся, як многа ў нашым горадзе таленавітых дзяцей!

**М. Д.**

## ПАЛЯКІ НЯ ТОЛЬКІ ТРЭНІРУЮЦЦА Ў ГОРАДНІ...

ТРЭНІРОВАЧНЫ збор правялі ў Горадні футбалісты з польскага горада Ломжа. Для іх гэта абышлося таньней, чым у родных сьценах.

Госьці згулялі некалькі кантрольных матчаў з гарадзенскімі камандамі. Сустрэчу з «Кардан флаерз», напрыклад, яны завяршылі ўнічыю — 2:2. Так што зборы былі карысныя для ламжанскіх футбалістаў. Да таго ж яны дамовіліся аб пераходзе ў сваю каманду гульца аднаго з гарадзенскіх клубаў. Імя навабранца пакуль трымаюць у сакрэце: пераход павінен афіцыйна зацьвердзіць Польскі футбольны саюз.

**М. МІХАЙЛОВІЧ.**



Маляваў С. ХАРЭЎСКІ, г. Вільня.

## НА ЎШАНАВАНЬНЕ ПАМЯЦІ М. ТКАЧОВА

Усведамляючы ўсенароднае значэньне дзейнасьці аднаго са сваіх заснавальнікаў, БСДГ аб'яўляе збор сродкаў на ўшанаваньне памяці Міхася Ткачова. Калі вы, паважаныя спадары, захочаце падтрымаць гэтую высакародную справу, то можаце пералічыць ахвяраваньні на бягучы рахунак Гарадзенскай філіі БСДГ 700609 у рэг. кам банку «Комплекс», код 152101714 з паметай: «На ўшанаваньне памяці М. Ткачова».

Сабраныя сродкі пойдуць: на памятныя дошкі ў г. Гродна, горадзе, у якім прайшлі найбольш плённыя для навукі гады М. Ткачова; на ўстаноўку помніка на магіле Міхася Ткачова ў г. Менску і на фундацыю імяннной стыпендыі для студэнта Гарадзенскага універсітэта, які паспяхова займаецца праблемамі беларускага сярэднявечча або нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі.

Шчыра ўдзячны Вам за Ваш уклад!

## ІЗНОЎ НАЗІРАЕЦЦА РОСТ ДАЛЯРА

Амаль два апошнія тыдні кошт даляра трымаўся практычна на адным узроўні. Нават назіралася яго паніжэньне. Аднак пачатак тыдня не заставіў ніякіх сумненьняў, што і надалей курс даляра будзе расьці. Дарэчы, ангельскі фунт без дзесяці капеек каштуе ўжо тысячу рублёў, відаць, хутка гэта станецца і з далярам...

**Курс валют банка «Комплекс» у Горадні 25 лютага**

| | | |
|---|---|---|
| Даляр ЗША | 660 | 698 |
| Нямецкая марка | 397 | 434 |
| Ангельскі фунт | 887 | 999.90 |
| Французкі франк | 101 | 126 |

**М. ЖЫЛЕЎСКАЯ.**

## «У беларусаў Польшчы павінны быць свае нацыянальныя палітыкі...»

**Магчыма, у недалёкай будучыні ў Польшчы ды і ў нас на Беларусі загучыць новае імя. Беларускую моладзь у Польшчы не задавальняюць адно толькі Купальле ды «Басовішча».**

**Яцак Пракапюк — малады палітык, які лічыць, што прысьпеў час ня толькі гаварыць, але і рабіць справу.**

**— ЯЦАК, ты зьяўляешся лідэрам ініцыятыўнай групы, якая вядзе падрыхтоўку па стварэньню нацыянал-лібэральнай партыі, прычым мяркуецца, што партыя гэтая будзе заснавана як партыя крайне правага накірунку. Чым абумоўлены вашыя памкненьні і ваш радыкалізм!**

— У той складанай палітычнай сітуацыі, у якой апынулася сёньня Польшча, павінны зьявіцца людзі, якія папросту здолеюць выразна і пераканаўча гаварыць аб праблемах польскіх беларусаў, дамагацца іх станоўчага вырашэньня, для якіх ня будзе асноўнаю мэтаю шукаць кампрамісы з існуючымі партыямі і рухамі. Мы

**— Ідэя крайняга лібэралізму не існуе ўжо даволі працяглы час.**

— Так, калі гаварыць аб Польшчы, то крайні лібэралізм скончыўся тут напрыканцы XIX стагоддзя, бо ўжо ад тае пары існавала дзяржаўнае кіраваньне гаспадаркай. Але мы думаем, што абавязак дзяржавы — стварыць як мага больш магчымасьцей для разьвіцьця любога чалавека. Гэта яе абавязак, і калі гэтыя магчымасьці зьяўляюцца, то кожны нармальны чалавек павінен іх скарыстаць. Таму адным з галоўных нашых праграмных накірункаў ёсьць адкрыцьце гаспадарчых межаў.

**— Якія палітычныя накірункі вы плануеце абраць у сваёй дзейнасьці!**

— Перш-наперш мы думаем стварыць і абавязкова ажыцьцяўляць на Беласточчыне, там, дзе яшчэ існуе беларускае асяроддзе, пазытывісцкую праграму разьвіцьця саміх беларусаў, зрабіць так, каб беларусы неразмываліся ў польскім асяроддзі. Мы будзем увесь час дамагацца (а для гэтага выкарыстоўваць усе законныя сродкі ўзьяднаньня), каб беларусы ў Польшчы мелі фактычна роўныя правы і магчымасьці з грамадзянамі польскай нацыянальнасьці.

**— У Польшчы дзейнічае Беларускае грамадзка-культурнае таварыства. Ці маеце вы якія-небудзь стасункі з гэтай арганізацыяй!**

БГКТ створана польскім урадам, каб звольніць бябе ад абавязкаў дзяржаўнай падтрымкі беларускай нацыянальнай меньшасьці. Дзяржаўныя чыноўнікі выступаюць за тое, каб беларусы самі рабілі свае імпрэзы, фэсты, фальклёрныя сьвяты. Таварыству даюць невялікія грошы, фінансуюць газэту «Ніва». І ім гэта выгодна, бо БГКТ ня робіць нічога, акрамя бяскрыўдных культурных мерапрыемстваў. Але ж у беларусаў, якія жывуць у Польшчы, павінна быць і свая нацыянальная палітыка і свае нацыянльныя палітыкі.

**— Якімі будуць вашыя першыя практычныя захады пасьля рэгістрацыі!**

— Па-першае, трэба распачаць масавае выданьне статуту нашай партыі. Безумоўна, думаем выдаваць сваю газэту. Будзем спрабаваць уплываць на розных адказных асобаў на Беласточчыне, каб яны на самой справе дапамаглі беларусам у іх нацыянальным адраджэньні. Да таго ж будзем абавязкова супрацоўнічаць з беларускімі ліцэямі, каб яны не былі школаю атлумліваньня беларусаў, як гэта было і ёсьць зараз.

**— Што ж, дзякуй за размову і посьпехаў вам.**

**Гутарыў С. КУНЕЖ.**

*Палітычная сцэна*

# АНТРАКТ СКОНЧАНЫ

Не-не, дый пачынаеш моцна сумнявацца: ці Эўропа ў нас тутака, ці пярэдадзень сёньня XXI стагоддзя? Бо 30-мі гадкамі тхне, а з вуліцы чуцён лямант партыйцаў: «З акопаў! Ура! Страляй іх!».

Варта было крыху больш месяца назад гарадзкой тапанімічнай камісіі сабрацца й абмеркаваць «прыгожыя» назвы гарадзенскіх вуліц накшталт камуністычна-сацыялістычна-марксаўскіх, як неўзабаве купа разьюшаных пэнсіянераў акупавала малую залу паседжаньняў гарвыканкама. Пільныя дзядкі, бач ты, надта ж узлаваліся, што камісія пасядала напярэдадні, аказваецца, угодкаў сьмерці іхняга куміра Ульянава-Блянка. Бедная тая камісія, якая не трымае ў галаве непатрэбную сабе інфармацыю...

Безцырымонныя наведнікі запатрабавалі ультыматыўна, каб быў звольнены неадкладна намесьнік старшыні выканкама А. Мілінкевіч, бо яны яго лічаць самым галоўным лідэрам БНФ... Старыя антыбеларусы дакладна ведаюць, што дзякуючы гэтаму чалавеку ў горадзе шмат што робіцца дзеля беларусізацыі, а таму чаму б і не вярзьці ўсялякія глупствы! А тут яшчэ вельмі «дарэчы» адвалілася пліта ад падмурка бронзавага помніка Ільічу — рэдкі козыр у рукі аматараў шукаць ва ўсім падкопы ЦРУ. І вось — людцы вы мае! — ледзьве ня цэлы выканкам вымушаны прыладжваць тую дурацкую пліту, якая ўсё адно ніяк не трымаецца, бо рабілі некалі ўвесь пляц разам з помнікам аўралам — да Кастрычніцкай дэманстрацыі...

Урэшце рэшт прыладзілі, вядома. А як жа не прыладзіць, калі адзін з актывістаў пэнсійнай групы захопа ў іншым месцы, ня сьцішваючы нават голасу, гразіўся расстраляць усю тапанімічную камісію... Вось так: нагуляліся ў дэмакратыю! КПСС на Беларусі рэанімавана, спраўдзіўся іранічны навагодні прагноз «Пагоні». Засталося толькі гарэлку яшчэ зноў прадаваць па 3.62...

У Горадні ўтварылася «дзвюхуладдзе», бо замест аднаго абкаму КПБ (першы сакратар сп. Верхась) існуюць ажно два, бо выйшаў з падпольля папярэдні — КПБ, і ягоны першы сп. Сямёнаў пасьпяшаўся правесьці пленум абкама, на які зьехаліся сакратары райкамаў вобласьці.

А на наступным тыдні адбылася яшчэ адна цікавая падзея. Рэдактары раённых газэт вобласьці сабраліся на нараду ў памяшканьні «Гродненской правды» і раптам у залу цьвёрдай хадою ўваходзіць ідэялагічны аддзел дапутчавага абкаму ў складзе сп. сп. Біруковай, Таранцея і Амелькі, якія сёньня займаюць значна сьціплейшыя пасады. Утварылася сцэна з гогалеўскага «Рэвізора», а сёй-той з рэдактараў у думках нават перахрысьціўся, хоць ніколі ў Бога ня верыў. Дзіва што, бо падобныя нарады калісьці праводзілі нашыя слаўныя ідэолагі, якіх правінцыйныя рэдактары багомілі й баяліся. Пасьля скасаваньня клясічнай мізансцэны адбылася «зацікаўленая» гутарка ў дырэктыўнай афарбоўцы.

Атрусіўшыся пасьля акопаў, партыйцы перайшлі ў атаку. Напачатку яны распаўсюдзілі на заводах, а таксама паўкідалі ў паштовыя скрынкі ўлёткі, зьмест якіх — зьневажаньне дзяржаўных сімвалаў Беларусі — выкрывае іхніх аўтараў як крымінальных злачынцаў. Асабліва вольна пачуваюцца камуністы на заводзе аўтамагнітолаў. Далей яны пачалі зьбіраць па кватэрах подпісы супраць перайменаваньня бальшавіцкіх вуліц. І людзі падпісваюць, а потым яны зноў вернуцца да ўлады... А баяцца ёсьць чаго, бо дзе камуністы, тамака — парушэньне правоў чалавека, скалечаныя лёсы, гора, сьлёзы, кроў, дзесяткі мільёнаў бязвінных ахвяраў, карацей кажучы — камуністычны лад жыцьця, камунізм.

25-га лютага гэтыя людзі прадставяць сэсіі гарадзкога Савету ультыматум: забараніць на тры гады вяртаць старажытным вуліцам іхнія нармальныя назвы. Будзе шкада, калі людзі добрай волі не выкажуць сваіх адносінаў да бальшавіцкай акцыі. Потым можа быць і запозна: мізантропы вяртаюцца, узьнімаюць голаў, дыктуюць і пагражаюць. Іншая мова ім невядома.

Беларусы, ачомайцеся! А беларусы тым часам адзначаюць сьвята, якое больш не існуе, прычым сьвяткуюць нават тыя, хто ніколі ў тых СА і ВМФ не служыў і самае страшнае — школьнікі, ад адзінаццага класа практычна па першы...

Крыху аптымізму дадае толькі той факт, што жанчыны-парафіянкі Фарнага касьцёлу правялі контракцыю й сабралі 510 подпісаў у падтрымку ініцыятывы вярнуць вуліцам старажытнай каралеўскай Горадні іхнія сапраўдныя, а не абразьліва-недарэчныя бальшавіцкія назвы.

**М. ІВАНЧЫК.**

*Музэі*

## ВЫБАЧАЙЦЕ, КАЛІ ЛАСКА...

Пад час Другой Сусьветнай вайны цэнтр Менска быў літаральна зьнішчаны фашыстоўскай авіяцыяй. Але, па адзнаках спэцыялістаў, з помнікаў гісторыі й культуры горад цалкам страціў толькі адзін — домік-музэй 1-га зьезду РСДРП. Пасьля вайны ён быў адбудаваны. І хаця старажылы сцьвярджаюць, што стаіць ён цяпер не на тым самым месцы, але з-за таго, што доўгія гады ўваходзіў ва ўсе турыстычныя маршруты, быў найбольш наведваемым музэем Менска. Таксама сюды абавязкова прыводзілі студэнтаў й школьнікаў сталіцы. І хаця экспазіцыя была створана вядомым на Беларусі мастаком, заслужаным дзеячом мастацтваў, уладальнікам Дзяржаўнае прэміі Рэспублікі Беларусь (за стварэньне экспазіцыі музэя Максіма Багдановіча) сп. Эдуардам Агуновічам, зьмест яе за апошнія часы, мягка кажучы, састарэў. Рэальна гэта ўсьведамляючы, калектыў музэя зачыніў яго з мэтай пабудовы новае экспазіцыі. Але за апошні год гэты будынак аказаўся ў віры падзей. Першы скандал узьняўся пасьля таго, як у музэі вырашыў абаснавацца нейкі амэрыканскі бізнэсмэн, выдаткаваўшы за гэта грошы на перабудову экспазіцыі. Зразумела, гэта выклікала абурэньне ў вэтэранаў бальшавіцкае партыі, якія наладзілі пікеты. Амэрыканскаму «арыгіналу» прыйшлося зьехаць, але страсьці ня сьцішыліся. І вось з 1-га студзеня музэй зноў гасьцінна расчыніў свае дзьверы, выконваючы патрабаваньні ўсё тых жа вэтэранаў. Але вы ўжо ня ўбачыце побач турыстычных аўтобусаў. І стаіць самотна зялёны дамок на сваёй вуліцы Камуністычнай, што праходзіць па самым беразе Сьвіслачы. А перад уваходам вісіць цыдулка, у якой супрацоўнікі музэя просяць прабачэньня ў наведвальнікаў. За тое, што яны там убачаць.

**А. ЛАНІЦКІ,**
**г. Менск.**



Фатаграфаваў А. УЛАДАСЕВІЧ

## З БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫМ СЬЦЯГАМ — У «ЧЫРВОНЫЯ ПАМЕШЧЫКІ»?

Ня ведаю дакладна, можа, дзе на Беларусі і ёсьць старшыні калгасаў, якія адкрыта падтрымліваюць пазіцыі БНФ. Але наўрад. Бо вельмі ўжо розьняцца іх інтарэсы і пазіцыі народнафронтаўцаў. Але падобна, што прэцэдэнт неўзабаве можа зьявіцца: сваю кандыдатуру на пасаду старшыні калгаса «40 год Кастрычніка», што на Салігоршчыне, выставіў лідэр мясцовай Даўгаўскай суполкі БНФ Рыгор Рыгоравіч Кулік. Па яго словах, цяперашняе кіраўніцтва сустрэла ягоную заяву літаральна ў штыкі. Не дае доступу да дакумэнтацыі, каб прэтэндэнт мог вывучыць становішча спраў у гаспадарцы, дало каманду не пускаць на фермы для правядзеньня агітацыі за сябе.

Рыгор Рыгоравіч мае сельскагаспадарчую адукацыю па спецыяльнасьці інжынер-механік, вопыт работы на шэрагу адказных пасадаў, але ўжо працяглы час нідзе не працуе — не ўжываўся з начальствам, справядліва ці не абвінавачваюць яго ў розных злоўжываньнях. Летась паспрабаваў стаць фермерам, але няўдала: прапанавалі зямлі намнога менш, чым прасіў, і невялікімі, параськіданымі» шматкамі.

Цяжка сказаць, «пацягне» або не кандыдат ў старшыні такі нялёгкі воз. Але з яго кароткай праграмы вынікае, што ён нядоўга пацерпіць калектыўнае гаспадараньне ў цяперашнім выглядзе. На першым этапе яго рэфармаваньня ён мае намер паставіць ў непасрэдную залежнасьць заработную плату ўсіх спэцыялістаў ад старшыні да брыгадзіраў ад таго, што атрымліваюць іх падначаленыя. На ўсе пасады спэцыялісты павінны выбірацца на конкурснай аснове, тарыфныя стаўкі для іх прапаноўваецца адмяніць.

На другім этапе рэформы мяркуецца ператварыць калгас у акцыянернае таварыства.

Уся калгасная маёмасьць у выглядзе імянных акцый павінна быць размеркавана ня толькі паміж калгасьнікамі, але й паміж пэнсіянерамі, усімі, хто некалі працаваў у калгасе, адпаведна стажу. Калі хто-небудзь не пажадае ўкладваць свае сродкі ў калектыўную вытворчасьць, ён мае права выдзяліцца і гаспадарыць самастойна.

Ня маючы ўпэўненасьці, што яму дазволяць хаця б выступіць са сваёй праграмай перад справаздачна-выбарчым сходам, які адбудзецца ў лютым, Рыгор Рыгоравіч зьвярнуўся з пісьмамі да старшыні раённага Савета народных дэпутатаў і ў мясцовую газэту.

**В. МУРЫЛЕЎ.**

*Высновы*

# АБ ХОНАР, АБ СЭНСУС

Былы ідэолаг ЦК КПБ, а яшчэ раней — старшыня парткаму Менскага гадзіньнікавага заводу т. Чыкін не сядзеў склаўшы рукі. Адразу пасьля забароны дзейнасьці кампартыі ён здолеў згуртаваць вакол сябе купку энтузіястаў і з'арганізаваў партыю камуністаў Беларусі (ПКБ), пасьпяшаўшы абвясьціць сябе правапрыемнікам былой КПБ. Ведаючы пра вялікую павагу У. І. Леніна да «Іскры», т. Чыкін з'арганізаваў газэту «Мы и время», якую пачалі распаўсюджваць (як ў былыя часы «Навіны БНФ») маладыя хлопчыкі ў менскіх электрычках.

Памятаючы сваё ідэалагічнае мінулае, т. Чыкін вырашыў унесьці сваю лепту ў развіцьцё марксісцкае тэорыі. Патрэбны быў нейкі арыгінальны ход, і ён быў знойдзены. Прызнаўшы, што сацыялізм у СССР ня быў сапраўдным сацыялізмам, бо ня здолеў пазьбегнуць прымусовае працы, т. Чыкін напачатку года выступіў з вялікім праграмным артыкулам пад назвай «AB OVO»: «Давайте попробуем во всем спокойно разобраться. Начать, пожалуй, придется, как говаривал великий Гораций, ab ovo (от яйца)». І узяўшы на ўзбраеньне вядомую ленінскую тэзу пра тое, што стаць камуністам можна адно авалодаўшы ўсім багацьцем ведаў, якое выпрацавала чалавецтва, т. Чыкін хоча пабудаваць новае грамадзтва, якое будзе грунтавацца на дыктатуры ТАЛЕНТУ.

Зазначу адразу, што ў прынцыпе мне падабаецца такая пазіцыя. Мне прыемна ўжо тое, што т. Чыкін можа працытаваць Гарацыя, хаця троху не зразумела, чаму менавіта яго. Ён быў паэтам і філёсафам. Калі зыходзіць з пазіцыі т. Чыкіна й пачынаць з паэзіі, дык у першую чаргу трэба зьвярнуцца да Гэсіёда. Калі пачынаць з філясофіі, тады трэба зьвярнуцца да Фалеса. І пачынаў бы я не з яйка — ведаем мы, адкуль яно ў курыцы выпадае, а з тых паняцьцяў, якія я вынес у назоў (думаю, што кожнаму беларусу зразумелы іх сэнс без перакладу).

Талент сам па сабе ні пра што ні гаворыць. Можна быць таленавітым, але рамесьнікам, таленавітым, але выканаўцам, таленавітым, але злачынцам. Наконт усяго багацьця ведаў... Яшчэ Геракліт казаў: «Шматведаньне розуму не навучае»... Зусім іншы вынік дае спалучэньне таленту й ведаў. Такі чалавек ужо ня можа быць шэрай пасрэднасьцю. Бо пра гэта даўным-даўно сказаў усё той жа Геракліт: «Мудрым можна лічыць толькі адно: Розум, які здатны кіраваць Сусьветам». Але кіруюць па-рознаму. Адны — з дапамогай крыві й страху, другія — уласным прыкладам самаахвяраваньня. Першыя — гэта пакрыўджаныя прыродай, закамплексаваныя тыраны. Яны нават зьнешне ўсе падобныя: Ірад, Нэрон, Вітаўт, Іван Грозны, Напалеон, Сувораў, Ленін, Сталін. Другія — Хрыстос, Дантэ, да Вінчы, Касьцюшка, Агінскі...

Мая выснова: чалавек, які спалучыў у сабе талент і веды, ніколі ня стане камуністам. Але... Яшчэ больш за тысячу гадоў таму было напісана Плятонам: «Вялізная маса людзей па самае сваёй прыродзе — рабы, яны ня здатныя сабою кіраваць, і дзеля іх жа карысьці ім патрэбныя гаспадары», і Шан Янам: «Хто разумны — ствараe законы, хто дурны — законам абмежаваны. Хто здольны — зьмяняе парадак, хто няздольны — той парадкам зьвязаны. З чалавекам, які зьвязаны парадкам, ня варта гаварыць пра справы, а з чалавекам, які абмежаваны законамі, ня варта гаварыць пра перамены». А таму дзеля нармальнага жыцьця патрэбны не ідэі, а добрыя законы. Над стварэньнем каторых чалавецтва й працуе ўжо не адну тысячу гадоў. Вось і ўсё, пра што хацелася сказаць.

Цікава, а якія стасункі цяпер будуць у т. Чыкіна з аднаўленай КПБ, правапрыемнікам каторай ён сябе лічыў? Я думаю, там, калі зноў дарвуцца да ўлады, дык ня будуць «мудрствовать лукаво».

**Я. ДУБРОЎСКІ,**
**г. Менск.**

● *Пінск*

## ПАЛЕСКІ ГЛЕЙ НА ДНЕ ЧОРНАГА МОРА

НАРЭШЦЕ знайшоўся адказ на пытаньне украінскіх навукоўцаў, адкуль паходзіць пагроза забруджваньня Чорнага мора глеем. Супрацоўнікі незалежнага экалагічнага клюба Пінска лічаць, што глей на дне Чорнага мора зьявіўся ў выніку актыўнай гідрамеліярацыі Палесься.

— Мы правялі досьледы,— распавёў карэспандэнту «Пагоні» удзельнік клюба лекар М. Дзікавіцкі,— і вызначылі, што ідзін літар дажджавой вады вымывае ў гідрамеліярацыйныя каналы каля трох грамаў глею. Далейшы шлях вызначыць проста: з каналаў магутныя насосныя станцыі выкачваюць усё ў рэкі і рэчкі Прыпяцкага басэйна, а па іх вада сьцякае ў Прыпяць і потым ужо па Дняпры трапляе ў Чорнае мора.

З гэтай нагоды экалягічны клюб Пінска лічыць неабходным спыніць далейшую гідрамеліярацыю Палесься, бо ў выніку такога гаспадараньня на месцы непраходных багнаў можа ўтварыцца пустэча, а Чорнае мора стане сапраўды чорным і атручаным.

**Г. АСТРОЎСКІ.**

● *Сходкі*

# «САКРЭТНАЯ» НАЦЫЯ

ВІРАТЛІВЫ час. Складанае жыцьцё напаўняе наша існаваньне новым зьместам. Неабходна пільна сачыць за пераменамі, бо яны часьцей вядуць нас да недалёкай мінуўшчыны, чым ў цывілізаванае заўтра.

Вось і я, ідучы на сходку камуністых, прысьвечаную 75-м угодкам былога першага сакратара ЦК КПБ П. М. Машэрава, спадзяваўся пачуць хоць што-небудзь новае, невядомае. На жаль, мае спадзеўкі разьвеяліся, як дым. Зала факультэта беларускай літаратуры й культуры Гарадзенскага дзяржаўнага унівэрсітэту больш чым напалову была запоўнена тымі, хто звыш сямідзесяці гадоў вёў нас да «сьветлай будучыні».

Адкрыў вечар таварыш Архіпаў. Ён пералічыў тых, хто быў ініцыятарам угодкаў, і даў слова прафэсару Верхасю. Прафэсар хвілін дзесяць тлумачыў вэтэранам, што таварыш Машэраў быў чысцейшай душы чалавек, яго прынцыповасьць павінна быць прыкладам усім сёньняшнім прадаўжацелям справы Леніна. Нагаварыўшыся ўволю, ён перадаў слова наступнаму. Як высьветлілася, гэта быў Пранько, блізкі сваяк нябожчыка. Доўга гаварыў Пранько, але так і не адужаў прывесьці хоць адзін прыклад з жыцьця былога першага, які б акрэсьліў яго гераізм. Зала пасьля такога выступу пачала ўздыхаць, хваляваўцца, а адзін з сядзячых побач мяне вэтэранаў зазначыў: «Нават сваіх чытае з паперкі, што ж тады казаць пра іншых». І мой сівагаловы сусед меў рацыю.

Наступны прамоўца Навумаў гаварыў такое, што ніяк не стасавалася да вечарыны. Замест таго, каб аддаць павагу сьветлай памяці Машэрава, Навумаў пачаў ганіць дэмакратаў. Потым перанёсься на ўлады Горадні, якія на ўезьдзе ў горад з боку Друзкенік ўзялі дый скасавалі шыльду з вывязай ордэна чырвонага працоўнага сьцяга, якім, з слоў прамоўцы, былі ўзнагароджаны рабочыя горада ў гонар чамусьці васьмідзесяціпяцігадовага юбілею Горадні. Далей яшчэ болей узгадваў прамоўца самыя неверагодныя нечаканасьці. Ён гаварыў аб нейкай нацыі, якая дала сьвету такіх выдатных людзей, як А. Пушкін, Я. Колас, П. Машэраў, Т. Шаўчэнка. Шкада, што прамоўца так і ня вызначыў, хто ж такая гэтая нацыя.

Бралі яшчэ словы Архіпаў, Сасноўскі, Гарбачова, але ў іх прамовах ні я, ні прысутныя так і не пачулі, што ж такога выдатнага зрабіў нябожчык ў час вайны. Яны не прыгадалі ніводнай ваеннай апэрацыі, якую б распрацаваў і ўзначаліў асабіста П. Машэраў. Рэфрэнам у прамовах было тое, што Пятро Міронавіч арганізаваў на Вілейшчыне ў час вайны камсамольскія арганізацыі ў тыле ворага і вельмі любіў канцэрты мастацкай самадзейнасьці. Ніхто не прыгадаў слухачам, чым жа вызначыўся Першы ў пасьляваенны час. Можа, проста тыя, хто выступаў, ня ведалі ці не пажадалі распавесьці прысутным праўду аб індустрыйнай гігантаманіі Першага, якая будавалася з элемэнтарнымі парушэньнямі норм бясьпекі акаляючага асяроддзя. Можа, яны забыліся пра гідрамэліярацыю Палесься і іншых рэгіёнаў Беларусі. Затое мы ведаем і без прамоў, што сталася з Палесьсем і да якіх экалагічных шкод прывяло будаўніцтва гігантаў прамысловасьці.

Сьвята адбылося, можна, як кажуць, «падбіць бабкі». Імпрэза угодкаў па задуме арганізатараў павінна была ўзьвесьці юбіляра ў чын нацыянальнага героя беларускага народа. Наўрад ці здолелі справіцца з гэтай задумай арганізатары. Чаму? На мой погляд, таму, што нічога геаічна-беларускага не было ў гэтым звычайным партыйным функцыянеры. Па-другое, у самой структуры арганізацыі ўгодкаў не прысутнічала нічога беларускага. Прамоўцы, калі выступалі, не сказалі ніводнага беларускага слова, а наадварот, ціснулі на інтэрнацыяналізм. Як пацьверджаньне гэтаму, прагучаў урывак з паэмы „Камуніст", прысьвечанай нябожчыку нейкім маскоўскім аўтарам.

Калі адыходзіў са сьвяткаваньня ўгодкаў, у Пакроўскім саборы званілі званы. Дзьве бабулькі, што разам са мною апраналіся ў гардэробе, шпарка падаліся ў сабор. Ідучы за імі, чуў іх гаворку: вось наладзілі сьвята, лепей бы пайшлі у сабор ды заказалі імшу па нябожчыку, ды сьвечачку паставілі — было б па-людску.

**І. СЕМЯНОЎСКІ.**

● *Салігорск*

# У ПАВЕТРЫ ЛУНАЕ СЛОВА «ЗАБАСТОЎКА»

**Калі на сэсіі Вярхоўнага Савета Беларусі абмяркоўвалася пытаньне аб кампэнсацыі стратаў насельніцтва на ашчадных рахунках у выніку інфляцыі, адзін з дэпутатаў прапанаваў павялічыць сумы укладаў у 40 разоў — адпаведна росту заробтнай платы. Ураду давялося адшукаць ажно трыльёны рублёў — у такую „капейчыну" ужо ўляцелі укладчыкам ягоныя «рэформы». Атрымлівается, што кожны жыхар рэспублікі за нейкую пару гадоў за будучае шчасьлівае рынкавае жыцьцё заплаціў па 100 тысяч рублёў на цяперашнія грошы.**

**Адсюль незадаволенасьць адных людзей, безнадзейная роспач другіх, што калі-нікалі праяўляецца акцыямі пратэсту. Вось і ў вытворчым аб 'яднаньні «Беларуськалій» зноў загучала слова «забастоўка»... Гутарку аб надзённых праблемах прапануем з намесьнікам старшыні Салігорскай рэгіянальнай арганізацыі Незалежнага прафсаюза гарнякоў Ю. А. Красоўскім.**

— **ЛЕТАСЬ шахцёры доўга змагаліся за падпісаньне з урадам Тарыфнага пагадненьня. Нечага дамагліся, хаця й далёка не ўсяго. Сёлета, здаецца, гісторыя паўтараецца...**

— Так, на бягучы год павінна быць заключана новае пагадненьне. З студзеня прадстаўнікі НПГБ выязджалі для пачатку перамоў па гэтаму пытаньню. Але нічога не атрымалася — камісія па нафце і хіміі упаўнаважана весьці перамовы толькі па праблемах, якія датычаць сваёй галіны. Наш прафсаюз цяпер аб 'ядноўвае рабочых пяці галінаў прамысловасьці. Таму неабходна, каб і ва ўрадавую камісію ўваходзілі прадстаўнікі ад усіх. Перагаворы адкладзены.

— **Якія найбольш прынцыповыя пункты гарняцкага праэкту Тарыфнага пагадненьня?**

— Індэксацыя зарплаты ў залежнасьці ад інфляцыі, пэрсаніфікаванае сацыяльнае страхаваньне, выплата часткі заробку рабочым у валюце, абмежаваньне рабочага часу шахцёраў 7 гадзінамі, пачынаючы ад спуску ў шахту да пад 'ёму на гару.

— **У мінулым годзе 40-дзённая забастоўка дала шахцёрам грунтоўную прыбаўку да заробку. Што зрабіла з ім імклівая інфляцыя?**

— Калі меркаваць па пакупной здольнасьці атрымоўваемых грошай — падзеньне ў некалькі разоў. Выйгралі ад забастоўкі, у першую чаргу, не звыш пяці тысяч шахцёраў, а ІТР і служачыя, якія нічым не рызыкавалі, спраўна хадзілі на працу. Напрыклад, начальнік горнага ўчастка мае цьвёрды аклад болей 30 тысяч, а тарыфная стаўка машыніста горнага камбайна шостага разраду — на трэць меншая. Апошняму, каб узьняцца да ўзроўню заробку свайго кіраўніка, трэба папрацаваць вунь як. А ён можа стварыць толькі выгляд работы замест таго, каб забясьпечыць неабходныя ўмовы. Ненармальна, што залежнасьць зарплаты рабочых ад вынікаў працы намнога большая, чым у кіраўнікоў. Зьмены да лепшага, лічу, не пачнуцца, пакуль не будзе наадварот.

— **Збыт прадукцыі за мяжу становіцца ўсё больш праблематычным, падаюць яе цэны на міжнародным рынку, а шахцёры дабіваюцца большай платы для сябе...**

— Магчымым скарачэньнем вытворчасьці, а значыцца і кадраў, якраз і палохае адміністрацыя. Застрашаныя кіравацца лягчэй. Ды не ўсё так, як нас запэўніваюць. Мы спэцыяльна зрабілі запыт у інстытуты, якія займаюцца праблемай Усходне-эўрапейскіх краін. Дык вось, краіны, дзе не сьціхаюць вайсковыя канфлікты, купляюць калійныя угнаеньняў некалькі меней. Але гэта кампэнсуюць Амэрыка і іншыя, з кім, нягледзячы на зьніжэньне коштаў, гандляваць усё роўна выгадна. А ў бліжэйшыя гады попыт на калій на міжнародным рынку павінен істотна падвысіцца.

— **Моцна сумняваюся, што саступіць сёлета ўрад, які летась вытрымаў такі націск шахцёраў і ня падпісаў самых прынцыповых пунктаў Тарыфнага пагадненьня.**

— Мінулай вясной гарнякі паказалі, што ўмеюць дамагацца сваіх мэтаў. Уліччыце зараз іх гарт і вопыт нашага прафсаюза — гэта ўжо іншыя людзі, якія пераканаліся, што іх сіла ў адзінстве. Да таго ж летась гарнякі ўступілі ў супрацьстаяньне з урадам адны. Цяпер КПГБ уключае ў сябе арганізацыі Новалукомльскіх энэргэтыкаў, бытавікоў Салігорска, шыньнікаў Бабруйска, вытворчых аб 'яднаньняў «Азот» (Горадня), «Палімір» (Наваполацак) і іншыя. Калі ўрад прадоўжыць цяганіну з падпісаньнем Тарыфнага пагадненьня, якая пачалася два месяцы таму, і будзе надалей ігнараваць справядлівыя патрабаваньні рабочых і правы прафсаюза, ён дачакаецца аднаго — справакуе рэспубліканскую забастоўку. Апрача таго, мы інфармуем аб абстаноўцы сваіх калегаў у Амэрыцы, Нямеччыне, Польшчы і іншых краінах. Іх кіраўніцтва, даведаўшыся, што дэмакратычныя зьмены на Беларусі практычна не адбываюцца, наўрад ці будзе падтрымліваць яе ўрад. Ці доўга такі ўрад пратрымаецца?

— **Геграфія Незалежнага Прафсаюза па-сапраўднаму ўражвае. Але ці такая ж яго рэальная сіла!**

— У «Беларуськаліі» ён налічвае каля 2,5 тысячы чалавек, а ў рэспубліцы — 5 тысяч. Што датычыць сілы, узгадайце мінулагоднюю забастоўку, калі нас было значна меней.

**Гутарку запісаў В. МУРЫЛЕЎ.**

## ЗВАРОТ

### АСАЦЫЯЦЫІ СУДДЗЯЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Кожны пражыты дзень зьяўляецца пацьверджаньнем таго, што правы грамадзян Рэспублікі ва ўсіх сфэрах жыцьця — палітычнай, эканамічнай, сацыяльнай — становяцца ўсё менеи і менеи абароненымі.

Законы, якія прымаюцца Вярхоўным Саветам, заклікаюць па сваёй сутнасьці забясьпечыць абарону грамадзтва і кожнага грамадзяніна паасобку, як правіла, недасканалыя, дэкларатыўныя й не ствараюць неабходных прававых гарантый.

Урачыста абьвясьціўшы 27 ліпеня 1990 года ў Дэкларацыі аб дзяржаўных сувэрэнітэтах Рэспублікі Беларусь, аб сваёй рашучасьці стварыць прававую дзяржаву, Вярхоўны Савет заявіў, што найважнейшым прынцыпам існаваньня гэтай дзяржавы зьяўляецца разьмежаваньне заканадаўчай, выканаўчай і судовай уладаў, аднак практычна не прыняў ніякіх адпаведных захадаў для ўвасабленьня ў жыцьцё прынцыпаў, якія сам абьвясьціў.

Судовая ўлада ня толькі ня стала незалежнай, а наадварот, рашэньне асноўных пытаньняў, якія датычаць арганізацыі й дзейнасьці судоў, усё ў значнай ступені залежыць ад волі выканаўчай улады.

Прававыя і матэрыяльныя асновы, якія забясьпечваюць нармальную дзейнасьць судоў і вызначаюць статус суддзяў, да цяперашняга часу не створаны. Прынятыя Вярхоўным Саветам канцэпцыі судова-прававой рэформы зьяўляюцца нічым іншым, як праграмай без гарантый.

Тым часам шэраг прынятых заканадаўчых актаў сьведчыць аб наданьні прыярытэтаў у праваахоўнай дзейнасьці адміністатыўным структурам улады.

Распрацаваны Саветам Міністраў праэкт Закона Рэспулікі Беларусь «Аб судаўтварэньні і статусе суддзяў у Рэспубліцы Беларусь», які быў прадстаўлены для разгляду ў Вярхоўны Савет, зьяўляецца пераканаўчым доказам імкненьня цалкам падпарадкаваць суды выканаўчай уладзе.

Усё гэта прывяло да таго, што з судовых установаў адыходзяць кваліфікаваныя спэцыялісты, існуе шмат цяжкасьцяў з падборам кадраў, шмат якія пасады працяглы час застаюцца вакантнымі. У шэрагу выпадкаў суддзямі абіраюцца асобы, якія па сваіх маральных якасьцях не адпавядаюць гэтай высокай пасадзе. У цэлым зьніжаецца інтэлектуальны ўзровень судовага корпуса, траціцца аўтарытэт суда, у сьвядомасьці грамадзян узьнікае недавер да існуючага закона.

Такія адносіны да суда і суддзяў як носьбіта судовай улады ня можа пакінуць абыякавым кожнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь і грамадзтва ў цэлым. Гісторыя нашай дзяржавы мае дастаткова прыкладаў, калі суд выкарыстоўваўся іншымі структурамі ўлады як зброя для запалохвання народа, а не як сімвал справядлівасьці й веры.

Права на непрадузяты і справядлівы суд па сваёй Канстытуцыі мае кожны грамадзянін Рэспублікі, і гэта права можа забясьпечыць толькі незалежны суд.

Асацыяцыя суддзяў Беларусі выказвае вялікую занепакоенасьць становішчам, якое склалася ў судовай сістэме Рэспублікі Беларусь, зьвяртаецца да ўсіх партый, грамадзкіх рухаў, грамадзян Рэспублікі, усіх, каму неабыякава адраджэньне Беларусі як прававой дзяржавы, з просьбай аб 'яднаць намаганьні ў рэалізаваньні прынцыпа падзелу ўладаў.

Суддзі Рэспублікі заяўляюць аб сваёй непрадузятасьці да ўсіх палітычных партыяў і грамадзкіх рухаў, спадзяюцца на іх падтрымку ў вырашэньні пытаньняў па ажыцьцяўленьню судовай рэформы і станаўленьня незалежнага суда.

**г. Менск.**

**12 лютага 1993 г.**

